ФОТАФАКТ




Будаўнічая кампанія "Славія" размясціла ў Гомелі білборд, які абяцае, што кліентам, якія звернуцца на беларускай мове, мэбля будзе прададзена з 10-працэнтнай зніжкай.

*"Калі гэты пілотны праект добра сябе зарэкамендуе, то "Славія" плануе арганізаваць падобныя акцыі і на куплю ювелірных вырабаў",* — паведаміў менеджар гомельскага філіяла кампаніі **Віктар Савіч.**

Шмат хто гаворыць пра тое, што беларусаў трэба заахвочваць вучыць родную мову і размаўляць на ёй. А "Славія" зрабіла канкрэтны крок у гэтым накірунку. Малайцы!

БЕЛАРУСЬ—ЕС

## Размарозіць Макея

*Кіраўнік МЗС Латвіі Эдгарс Рынкевічс праінфармаваў калег з краін Еўрасаюза пра сваю нядаўнюю сустрэчу з міністрам замежных спраў Беларусі Уладзімірам Макеем і адзначыў важнасць адказнага ўдзелу абодвух бакоў у дыялогу ЕС і Беларусі.*

*"Беларусь павінна палепшыць сітуацыю ў сферы захавання палітычных свабод і каштоўнасцяў, а ЕС, ацаніўшы прагрэс у гэтай сферы, — аднавіць палітычны дыялог з Беларуссю і актывізаваць практычнае супрацоўніцтва ў розных галінах",* — заявіў латвійскі міністр.

Рынкевічс прапанаваў запрасіць на сустрэчу міністраў замежных спраў краін "Усходняга партнёрства", якая пройдзе ў ліпені, а таксама кіраўніка беларускага знешнепалітычнага ведамства. Нагадаем, што Уладзімір Макей уваходзіць у спіс беларускіх чыноўнікаў, якім забаронены ўезд на тэрыторыю ЕС. Такім чынам, прапанова кіраўніка МЗС Латвіі фактычна азначае прапанову выключыць Макея з гэтага спісу.

ЧУЛІ?

## У Беларусі разлічваць на льготны крэдыт можа сям'я з прыбыткам да 530 доляраў на чалавека

У Беларусі з 1 мая ўсталёўваецца новы памер сярэднедушавога мінімальнага спажывецкага бюджэту сям'і з чатырох чалавек — 1.527.270 рублёў. Гэты нарматыў служыць асновай пры прыняцці рашэння аб выдзяленні льготнага крэдыту на нерухомасць. Бо, як вядома, каб прэтэндаваць на льготны жыллёвы крэдыт у Беларусі, мала адносіцца да асаблівай катэгорыі грамадзян. Важнае значэнне мае і ўзровень даходаў.

Разлічваць на дзяржпадтрымку могуць тыя грамадзяне, у якіх сярэднямесячны даход не перавышае трохразовага сярэднедушавога мінімальнага спажывецкага бюджэту сям'і з чатырох чалавек. Такім чынам, даход на кожнага члена сям'і не павінен перавышаць 4.581.810 рублёў, што эквівалентна 530 доларам па курсе Нацбанка.

Для атрымання льготнага крэдыту сям'я з двух чалавек павінна зарабляць не больш за 9.163.620 рублёў (1060 у.а.), з трох чалавек — не больш за 13.745.430 рублёў (1590 долараў).

Новы нарматыў будзе дзейнічаць з 1 мая па 31 ліпеня 2013 года, паведамляе realt.onliner.by.

Катэгорыі грамадзян, якія маюць права на атрыманне льготнага крэдыту на нерухомасць, пазначаны ва ўказе прэзідэнта Беларусі №13 ад 6 студзеня 2012 года. Спачатку вызначаецца, ці падпадае грамадзянін пад адну з катэгорый, пералічаных ва ўказе, а затым аналізуюцца даныя аб даходах усіх членаў сям'і за апошнія 12 месяцаў. Гэтыя два фактары павінны сысціся пры вызначэнні права на прадастаўленне льготнага крэдыту.

## Міхаіл Хвастоў заклікае да адмены санкцый

*"Прынятыя Вялікабрытаніяй і ЗША ў дачыненні да Беларусі меры эканамічнага прымусу ў выглядзе санкцый павінны быць адменены",* — заявіў пастаянны прадстаўнік Беларусі пры Аддзяленні ААН і іншых міжнародных арганізацыях у Жэневе Міхаіл Хвастоў, выступаючы на сесіі падрыхтоўчага камітэта Канферэнцыі-2015 па разглядзе дзеяння Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі.

Як паведамляе прэс-служба МЗС, Хвастоў падкрэсліў, што для Беларусі маюць асаблівае значэнне трохбаковыя гарантыі бяспекі, прадастаўленыя ў адпаведнасці з Будапешцкім мемарандумам 1994 года ў сувязі з добраахвотнай адмовай Беларусі ад права валодання ядзернай зброяй. Будапешцкі мемарандум зарэгістраваны ў ААН як міжнародны дагавор.

"*Тры дзяржавы — Вялікабрытанія, Расія і ЗША — узялі на сябе абавязацельства паважаць незалежнасць і суверэнітэт Беларусі, у тым ліку не ўжываць меры эканамічнага прымусу",* — падкрэсліў Хвастоў.

***А што вы, паважаныя чытачы "Народнай Волі", думаеце пра санкцыі? Ці эфектыўныя яны, на вашу думку? Пішыце пра гэта ў лістах у "Народную Волю", самыя цікавыя — надрукуем.***

АБСУРД

## Крымінальная справа за спробу сустрэцца з кіраўніком краіны?

*Праваабаронцы Тамары Сяргей Генеральная пракуратура абвясціла афіцыйнае папярэджанне пра "недапушчальнасць парушэння закона".*

У дакуменце, які падпісаў намеснік Генеральнага пракурора Аляксандр Лашын, гаворыцца, што ў выпадку далейшага парушэння заканадаўства ў дачыненні да Тамары Сяргей будзе разгледжана пытанне пра пачынанне крымінальнай справы па артыкуле 193 (прым.) Крымінальнага кодэкса (дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі).




Па словах Тамары Сяргей, яна не згодна з папярэджаннем і будзе абскарджваць яго:

— Я лічу, што гэта адказ нашай дзяржавы на маю спробу, а таксама на спробы іншых грамадзян, сустрэцца з кіраўніком краіны падчас яго выступлення са штогадовым пасланнем беларускаму народу і парламенту. Больш за тое, я лічу, што ў нас няма незалежнай Генеральнай пракуратуры, гэта маё меркаванне. Тое, што адбываецца цяпер, гэта ўказанне Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Па словах Тамары Сяргей, у прыёмнай Адміністрацыі А.Лукашэнкі ёй пагражалі крымінальнай справай за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Аднак, па словах праваабаронцы, ніякай арганізацыі няма. Грамадзяне, якія пацярпелі ад дзеянняў пракуратуры і суда, калектыўна звяртаюцца са скаргамі і лістамі ў суды і дзяржаўныя інстанцыі. Але некалькі подпісаў пад лістом ці скаргай і сумеснае абмеркаванне іх зместу не значаць, што грамадзяне стварылі арганізацыю, кажа Тамара Сяргей.

Паводле артыкула 193 (прым.) Крымінальнага кодэкса ў Беларусі было асуджана некалькі чалавек, у тым ліку сябры зарэгістраванай у Чэхіі арганізацыі "Малады фронт" і іншых арганізацый.

ИНИЦИАТИВА

## Георгий Бадей настаивает на введении страховой пенсионной системы

На съезде Белорусского союза предпринимателей и нанимателей (БСПН) им. Кунявского председатель правления **Георгий Бадей** заявил, что настаивает на проведении в Беларуси пенсионной реформы.

По его словам, действующая пенсионная система имеет ряд существенных недостатков. В частности, она основана на принципах солидарности поколений работающих и нетрудоспособных граждан, что не вызывает у белорусов заинтересованности в выплате всех пенсионных взносов и увеличении своих пенсионных выплат в будущем.

Как сообщает БелаПАН, Бадей предлагает обратиться к принципам страхования в пенсионной системе, сделав ее трехуровневой. Однако, констатировал он, концепция пенсионной реформы, внесенная в Национальный совет по трудовым и социальным вопросам, до сих пор не рассмотрена.

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

# Як Антось Вусовіч змагаецца з шавіністам

Пра тое, як адзін сусед-дачнік пабіў другога, "Народная Воля" расказвала яшчэ 14 снежня 2012 года. Пабіў не з-за мяжы, не падчас распіцця гарэлкі. Нагадаем той эпізод у пераказе Антося Вусовіча:

*"11 жніўня позна ўвечары я сустрэў на 5-й вуліцы садовага таварыства "Атам" Уладзіміра Дзюкарава каля яго дома №193. Пасля некалькіх агульных слоў Дзюкараў запатрабаваў, каб я размаўляў з ім на рускай мове. "Это русская земля, надо говорить на русском языке!" Далей: "Здесь нет белорусов, здесь все пшеки и жиды" і іх тут трэба "бить, воевать, стрелять". І дадаў, што ёсць нейкія людзі і што яго сыны яму дапамогуць. І тут жа ўдарыў мяне два разы кулаком у твар..."*

Што цікава — сваё недарэчнае, абразлівае, можна сказаць, дзікунскае выказванне спадар Дзюкараў паўтарыў слова ў слова пры сведках. Пасля чаго А.Вусовічу нічога іншага не заставалася, як звярнуцца ў праваахоўныя органы. І вось рэакцыя начальніка Бараўлянскага аддзела міліцыі Мінскага раённага ўпраўлення ўнутраных спраў Д.У.Шайбака: *"...на падставе п.2 ч.1 арт.29, п.2 ч.1 арт.174 КПК Рэспублікі Беларусь прынята рашэнне аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы (за адсутнасцю ў дзеі складу злачынства). У дачыненні да Дзюкарава В.Г. складзены пратакол аб адміністрацыйных правапарушэннях, прадугледжаных арт.9.3 КаАП РБ (Абраза). Справа аб адміністрацыйным правапарушэнні накіравана ў суд Мінскага раёна для прыняцця рашэння паводле дзеючага заканадаўства".*

А што суд? Штраф у памеры 500 тысяч рублёў — і будзь здароў, спадар Дзюкараў!

Вядома ж, прынцыповы Антось Вусовіч не мог пагадзіцца з такім рашэннем суддзі Сяргея Ткачука — як быццам усё тлумачыцца дробным адміністрацыйным парушэннем кшталту *"стасункаў Івана Іванавіча з Іванам Нікіфаравічам".* Хоць, лічыць Вусовіч, відавочны факт **"свядомага цынічнага глумлення са святыняў суверэннай дзяржавы Беларусь, агрэсіўнай пагарды да тутэйшага насельніцтва".** І на стол пракурора Мінскага раёна кладзецца заява, у якой сцвярджаецца, што грамадзянін Дзюкараў здзейсніў не адміністрацыйнае правапарушэнне, а крымінальнае. Падобны ліст быў накіраваны і ў Камітэт дзяржаўнай бяспекі. Намеснік пракурора Мінскага раёна А.Ю.Чарнавін напісаў: *"Пастанова аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ад 17.09.2012 г. адменена. Матэрыялы накіраваны начальніку Мінскага РУУС для арганізацыі дадатковай праверкі".*

"Нарэшце справа будзе вывучана дасканала і з усіх бакоў", — меркаваў Антось Вусовіч. Можна ж звярнуцца да экспертаў-лінгвістаў, якія дадуць кваліфікаванае заключэнне, расставяць, як кажуць, усе кропкі над "і". І калі б дадатковая праверка пайшла па такім шляху, то і вынік быў бы адпаведны. Але, адчуваецца, ніхто з праваахоўнікаў не абцяжарваў сябе сур'ёзным аналізам справы. Ніхто больш не сустрэўся са спадаром Вусовічам, не задаў яму ніводнага дадатковага пытання. Праходзіць некаторы час, і ён атрымлівае шаблонны адказ: *"...прынята рашэнне аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы (за адсутнасцю ў дзеі складу злачынства)".*

Антось Вусовіч вырашыў не здавацца, а ісці далей. Ён звяртаецца ў шэраг дзяржаўных органаў, у тым ліку і праваахоўных. І вось рэагаванне Мінскай абласной пракуратуры: *"Вызначана, што* ***праверка праведзена няпоўна****, у сувязі з чым пракуратурай вобласці 12.02.2013 г. указаная пастанова органа дазнання аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы скасавана і матэрыялы для правядзення дадатковай праверкі накіраваны ў Мінскае РУУС, адкуль Вам будзе паведамлена аб яе выніках".*

Наіўны Вусовіч: яму здавалася, што лёд крануўся. Ён нават не звярнуў увагу на тое, што паперы накіраваны ў тое ж самае Мінскае раённае ўпраўленне ўнутраных спраў, кіраўніцтва якога ўжо сваё слова сказала. І, безумоўна, яно прадубліравала сваё рашэнне — адмовіць ва ўзбуджэнні крымінальнай справы. І на гэты раз ніхто не выклікаў Антося Вусовіча, ніхто ніякай дадатковай праверкі не рабіў.

Разлік мясцовых праваахоўнікаў, магчыма, быў такі: нарэшце спадар Вусовіч спыніцца і справа пойдзе ў архіў. Але... яго чарговы ліст быў адрасаваны ў Генеральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь. І як жа Антось здзівіўся, калі праз некалькі дзён з галоўнай пракуратуры краіны прыйшло паведамленне за подпісам намесніка начальніка аддзела па наглядзе за захаваннем праў і свабод грамадзян **П.П.Елісеева,** што яго зварот накіраваны ў... пракуратуру Брэсцкай вобласці. Толькі хацеў скардзіцца на сляпы бюракратызм спадара Елісеева, як з пракуратуры Брэсцкай вобласці прыходзіць пісьмо, у якім гаворыцца, што яго заява пераадрасавана пракуратуры Мінскай вобласці.

Ці ж не найярчэйшы ўзор працы беларускіх чыноўнікаў?!

Паколькі размова ўсё ж ідзе не пра звычайную сварку *"Івана Іванавіча з Іванам Нікіфаравічам",* то "Народная Воля" дае магчымасць Антосю Вусовічу публічна давесці свае аргументы да шырокай грамадскасці. Яны выкладзены ім у тым жа лісце на імя Генеральнага пракурора Беларусі Аляксандра Канюка (друкуецца з некаторымі скарачэннямі і стылістычнымі праўкамі).

За далейшым ходам падзей "Народная Воля" будзе ўважліва сачыць і інфармаваць сваіх чытачоў.



# Ліст Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь Аляксандру Канюку

Спадар Генеральны пракурор!

11 жніўня 2012 года ў садовым таварыстве "Атам" рускі па паходжанні чалавек, які прыехаў у Беларусь з Дагестана (фармальна атрымаўшы грамадзянства Рэспублікі Беларусь ў 1991 годзе, але сэрцам свядома не прыняўшы), **публічна** і агрэсіўна прапагандаваў шавінізм, **глуміўся з Беларусі як суверэннай дзяржавы**, прапагандаваў **нянавісць да беларусаў і пагражаў арганізаванай збройнай расправай.**

## Пра дэталі падзеі

11 жніўня 2012 ўвечары на вуліцы садовага таварыства "Атам" я сустрэў спадара Уладзіміра Дзюкарава. На яго пытанне, чаго я кульгаю, адказаў, што **"цягнуся з лазні".** Паследаваў гнеўны вокрык: **"Говори по-руски!"** На што я запярэчыў: **"А навошта? Я беларус. Тут беларуская зямля".** Далей пайшоў шалёны крык, што **"это русская земля! здесь должен быть русский язык!",** што **"здесь нет белорусов, все здесь пшеки и жиды"** і нас тут трэба **"бить, воевать, стрелять".** І дадаў, што **ёсьць людзі** *(?)* і што **сыны яму дапамогуць**. **І тут жа ўдарыў мяне два разы кулаком у твар.**

Праз колькі хвілін сп.Дзюкараў усё раней ім сказанае **дакладна пацвердзіў** старшыні садовага таварыства Аляксею Сушчонку.

На наступны дзень сын Дзюкарава пагражаў мне фізічнай расправай, а таксама спаліць дом.

Я звярнуўся ў праваахоўныя органы (Мінскае РУУС, пракуратуру Мінскага раёна і Мінскай вобласці, Генеральную пракуратуру і КДБ) з просьбай даць кваліфікаваную ацэнку ўчынку спадара Дзюкарава. **Дакладнасць** прыведзеных у маёй заяве **ўсіх (!) фактаў пацверджана паказаннямі** сведкаў і ўскосна **пастановай суда** Мінскага раёна. Вось цытата:

**"Объяснения потерпевшего и указанных свидетелей, которые согласуются между собой, получены в порядке, установленном ПИКоАП Республики Беларусь. Противоречий в пояснениях не имеется, они являются последовательными и логичными с учетом возникшей негативной ситуации между сторонами, которым не доверять у суда оснований не имеется".**

У той жа час гэтыя **факты свядомага цынічнага глумлення з святыняў суверэннай дзяржавы Рэспубліка Беларусь, агрэсіўнай пагарды да тутэйшага насельніцтва** Мінскае РУУС і суд Мінскага раёна далікатна інтэрпрэтавалі толькі як дробнае адміністрацыйнае правапарушэнне кшталту *"стасункаў Івана Іванавіча з Іванам Нікіфаравічам".*

Праўда, пракуратура Мінскага раёна, а затым пракуратура Мінскай вобласці не пагадзіліся з такім падыходам. Апошняя прыйшла да такой высновы:

**"Праверка праведзена няпоўна, у сувязі з чым пракуратурай вобласці 12.02.2013 г. указаная пастанова органа дазнання аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы скасавана, і матэрыялы для правядзення дадатковай праверкі накіраваны ў Мінскае РУУС, адкуль Вам будзе паведамлена аб яе выніках".**

З Мінскага РУУС насуперак патрабаванню арт.18 закона "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб" атрыманы адказ-адпіска без аналізу і абвяржэнняў прадстаўленых фактаў і фармулёвак. З адказу вынікае, што матэрыял справы дадаткова не даследаваўся, спасылкі на адпаведныя заканадаўчыя акты для матывацыі вынікаў адсутнічаюць.

Мяркую, што **ахайванне, знявага беларускай дзяржаўнасці, суверэнітэту краіны, пагрозы арганізаванай расправы зброяй з тутэйшым народам** (гатоўнасць "**бить, воевать, стрелять"** і што **"есть люди"** *(?! — цікава было б устанавіць, што гэта за людзі, ці арганізацыя?)* і што **сыны** яму **дапамогуць)** маюць пэўную кваліфікацыю ў юрыдычных актах, якую павінны вызначыць праваахоўныя органы.

**Глумленне з беларускага народа (!)** (а не з адной асобы), **пагарда** да нацыянальнай годнасці беларусаў, да іх мовы (**"здесь нет белорусов, все здесь пшеки и жиды", "это русская земля, и здесь должен быть русский язык")** таксама маюць пэўную кваліфікацыю ў юрыдычных актах.

Пагрозы фізічнай расправы з асобным чалавекам і пагроза спаліць яго маёмасць (дом) маюць адпаведную ацэнку ў нашым заканадаўстве.

Я, Антось Вусовіч, нічога не маю супраць жыдоў. Да слова, гэта спрадвечны нейтральны назоў юдэяў у Беларусі і ў Еўропе.

Дзюкараў, як чалавек адпаведнай ментальнасці, надае гэтаму слову —" жыд" — негатыўны сэнс.

А вось тэрмін "пшэкі" — гэта абразлівая форма для каталікоў, палякаў і жыхароў Заходняй Беларусі, як і зняважлівае — "бульбаш".

Я асабіста ганаруся **сваёй** нацыянальнасцю — беларус.

З павагай стаўлюся да ўсіх людзей, што пусцілі карані ў Беларусі, працуюць на свой дабрабыт і дабрабыт Беларусі і не пярэчаць майму праву быць беларусам і мець нацыянальную дасведчанасць.

Усё іншае ад лукавага.

Я не жадаю "крыві" гэтага сталага ўжо чалавека і не прагну пасадзіць яго за краты. Але лічу, што гэтаму чалавеку, які ў 1991 годзе фармальна атрымаў грамадзянства Рэспублікі Беларусь, але не прыняў сэрцам, **кампетэнтны дзяржаўны орган мусіць (!) належным чынам патлумачыць (!) абавязкі Грамадзяніна Рэспублікі Беларусь:**

— шанаваць Канстытуцыю Беларусі, яе законы ***(****арт.52 Канстытуцыі);*

— ахоўваць суверэнітэт *(арт.57 Канстытуцыі);*

— ведаць і шанаваць мову, гісторыю, культуру ды іншыя нацыянальныя і дзяржаўныя каштоўнасці ***(****арт.54 Канстытуцыі).*

Пры нязгодзе спадара Уладзіміра Дзюкарава пагадзіцца з вышэйзгаданымі абавязкамі Грамадзяніна **— прыцягнуць яго да строгай адказнасці ў адпаведнасці з дзейным заканадаўствам.**

Гэта не просты, адзінкавы бытавы выпадак. І, на жаль, не адзінкавы.

Нядаўні выпадак, калі міліцыянты затрымлівалі педагога, які размаўляў па-беларуску са студэнтамі на ганку кансерваторыі.

Міліцэйскі патруль каля магазіна "Еўрапейскі", пачуўшы беларускую мову, паказвае ў мой бок — "па-беларуску гаворыць".

Быць беларусам ужо небяспечна?

У снежні 2012 года на бетоннай сцяне плоту Белтэлерадыёкампаніі ў праходзе ад вуліцы Макаёнка да медсанчасці завода імя Вавілава з'явіўся вялікі надпіс **"Мы русские! С нами Бог".** Успамінаюцца і іншыя лозунгі-заклікі **„Deutschland uber alles" і „Gott mit uns".** Небяспечныя паралелі.

Праз некаторы час знізу пад лозунгам, што ўслаўляў рускіх, з'явіўся другі — **"Маскаль, "Go home", д'ябла".**

Гэтыя надпісы красуюцца і сёння.

Свежы выпадак у дзяржаўнай установе (ёсць афіцыйныя сведкі). Падказваю чалавеку, колькі зараз часу. Злосны вокрык: **"Говори по-русски! Я не гражданин Белоруссии! Не понимаю вашего языка!"**

Чванства некаторых рускіх перайшло межы? Адкрыты здзек з беларусаў у іх жа доме — у Беларусі.

А яшчэ ёсць "РНЕ".

І праваахоўныя органы ва ўпор не жадаюць гэтага бачыць?!

Дзеля чаго? Каб не пакрыўдзіць "старэйшага брата"? Які ўжо амаль сядзіць у беларуса на карку. Інкарпарацыя ў склад Расійскай імперыі ідзе, на мой погляд, поўным ходам. Нахабна ўбіваецца ў галовы існаванне міфічнай "саюзнай дзяржавы". Расійцы скупляюць жыллё і дзяржаўную маёмасць. Ва ўгоду расійскім алігархам знішчаецца "Маскоўскі аўтавакзал" у Мінску. І неўзабаве беларус застанецца ў сваім доме-Беларусі, на сваёй зямлі без нічога.

І тады поўнасцю загаспадарыць расійскі алігархічны капітал. На мой розум, Расія ад часоў падзелу Вялікага Княства Літоўскага і да сёння глядзіць на нашу краіну як на здабычу.

Далучыўшы ВКЛ пад хлуслівым лозунгам **"присоединение единоверцев",** Кацярына II атрымала не "праваславных-единоверцев", а 75% уніятаў і толькі 5% праваслаўных, астатнія пратэстанты і іудзеі. Пасля паўстання 1831 года **"во избежание памяти ненужной"** Расія перайменавала Літву ў Беларусь, забараніла нашу мову, уніяцкую царкву і кнігадрукаванне. А пасля паўстання 1863—1864 гадоў забараніла і гэтую назву, замяніўшы яе на **"Северо-Западный край"**. У 1919 годзе была задушана Беларуская Народная Рэспубліка.

І вось да цяперашніх часоў засеўшыя ў некаторых галовах замшэлыя, шавіністычныя, вялікадзяржаўныя лозунгі не даюць спакою. А вы, спадарства міліцыя, пракуратура, КДБ, не жадаеце гэта заўважаць?!

Чаму? Каму гэта выгадна? Інтарэсам якой дзяржавы вы служыце?

І апошняе. Нам усім, хто тут пусціў карані, наканавана жыць разам. Усялякі падзел на "сваіх" і "чужых" — бяда. А таму здаровы сэнс падказвае катэгарычную неабходнасць развітацца з замшэлымі, вялікадзяржаўнымі, шавіністычнымі поглядамі на Беларусь як на "Северо-Западный край".

Учынак спадара Дзюкарава — гэта не бяскрыўднае дробнае хуліганства, здзейсненае "сп'яна", на бытавым узроўні, а сур'ёзнае **злачынства крымінальнага характару.**

**Гэта прарастаючае ці ўжо саспелае небяспечнае пустазелле шавіністычнай афарбоўкі стала рэальна праяўляцца ў суверэннай Беларусі. Небяспеку гэтага пустазелля неабходна, пакуль не позна, паказваць грамадству і катэгарычна выкарчоўваць.**

Спадар Генеральны пракурор!

Прашу Вас як высокую службовую асобу паглядзець на прыведзеныя мною факты з пазіцыі годнасці і гонару нашай дзяржавы і прыняць меры па выкараненні праваахоўнымі органамі антызаконных праяў.

**Антось ВУСОВІЧ, грамадзянін Рэспублікі Беларусь.**

*Мінск.*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
26 КРАСАВІКА 2013 г.

ПРОЩАЛЬНОЕ СЛОВО

# Жизнь, прожитая для людей

На днях страну облетелеа печальная весть: умер **Николай Григорьевич ВОЙТЕНКОВ,** бывший председатель Гомельского облисполкома, депутат Верховного Совета 12-го созыва. Не стало личности, у которой талант руководителя национального масштаба был соразмерен и находился в гармонии с высокими человеческими качествами. Что бывает, увы, далеко не всегда.



Вспоминаются два эпизода. Лето 1991 года, заседание Бюро ЦК КПБ. Заслушивается отчет Войтенкова о работе по ликвидации последствий аварии на Чернобыльской АЭС. Заседание проходит в духе худших традиций КПСС — с обвинениями областной власти во всех грехах — и сводится по форме к обыкновенному разносу. Вульгарно понимаемая партийная принципиальность не оставляет места не только для объективности, но и для проявления обыкновенных человеческих чувств, так уместных и необходимых в данном случае.

На Войтенкове нет лица. После окончания экзекуции я зову его к себе в кабинет, кабинет заведующего отделом аграрной политики ЦК КПБ, который несколько лет перед этим был и его кабинетом. Пытаюсь утешить, говорю о том, что не надо принимать так близко к сердцу произошедшее. Тем более ему, руководителю, сделавшему для ликвидации последствий ужасной катастрофы, постигшей родную Гомельскую область, так много, как никто другой. И люди знают, ценят это. "Но как они могут себе позволять подобный тон! — восклицает Николай Григорьевич. — Неужели не понимают, какие времена на дворе и что надо в корне меняться во всем, и прежде всего в отношении к людям?".

Как оказалось, **они** не могли меняться, и уже буквально через несколько месяцев КПСС не стало, история вынесла ей свой приговор. Но меньше всего в этом были повинны такие руководители, как Николай Войтенков.

Второй эпизод. Лето 1998 года. Заседание президиума Совета министров. Заслушивается мой отчет, отчет первого заместителя председателя Минского облисполкома, о работе по реформированию АПК. У отчета своя предыстория: всего несколько месяцев назад, в марте, на большом совещании в Гродно я публично критиковал проводимую президентом Лукашенко экономическую политику на селе. Говорил о том, что, если игнорировать реформы, частную собственность, в т.ч. и на землю, страну ожидает неминуемое банкротство.

Вызов не остался незамеченным, и для экзекуции меня позвали с отчетом на заседание правительства. Мероприятие свелось к осуждению моей деятельности и обвинениям в попытке ревизии политики президента и его экономического курса. Нашелся только один, кто выступил в мою защиту, и это был Николай Григорьевич Войтенков. Он заявил, что реформированием колхозов все равно рано или поздно придется заниматься, и сослался при этом на опыт Чехии, где он несколько лет до этого провел в качестве белорусского посла.

Николай Григорьевич Войтенков долгие годы тяжело болел. Может быть, это обстоятельство не позволило ему до конца реализовать дарованный от Господа Бога незаурядный, мощный потенциал и сыграть куда более важную роль в современной истории страны. Но и сделанное этим мудрым, обаятельным, интеллигентным, скромным человеком, которого по-настоящему уважали и любили, останется в сердцах и душах многих наших сограждан как образец настоящего руководителя, пример достойной, красиво прожитой жизни. Для людей и во благо людей родной его Гомельщины и всей Беларуси. Вечная ему память!

**Александр ЯРОШУК,**
**председатель**
**Белорусского Конгресса**
**демократических**
**профсоюзов.**

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

## *Хто з расійскіх сенатараў мае нерухомасць у Беларусі?*

*Штогод расійскія дзяржслужачыя, у тым ліку сенатары і дэпутаты, абавязаны публікаваць звесткі аб даходах і маёмасці. У адрозненне ад Беларусі, гэтыя звесткі павінны быць публічнымі і адкрытымі. Цікава, апошнія дэкларацыі пралілі святло на тое, хто з расійскіх сенатараў мае маёмасць у нашай краіне?*

**Ірына АНДРЭЕВА,**
**Мінск.**

Такіх аказалася няшмат.

Грунтоўна ўрос у беларускую зямлю член Савета Федэрацыі, былы намеснік губернатара Яраслаўскай вобласці **Юрый Удалаў**. У Беларусі ён мае два жылыя дамы плошчай 420 і 44,1 кв.м і тры немалыя зямельныя ўчасткі: 2499 кв.м, 15.000 кв.м і 911 кв.метраў.

Са 163 сенатараў Удалаў аказаўся адзіным, хто Беларусь можа называць другім домам.

У Дзяржаўнай Думе Расіі таксама знайшоўся адзін дэпутат з беларускай нерухомасцю. Нават не дэпутат, а дэпутатка — камуністка, касманаўт, адзіная жанчына, якая стала двойчы Героем Савецкага Саюза **Святлана Савіцкая**. Невялічкай кватэрай (40,8 квадратнага метра) і гаражом у Беларусі валодае яе муж, таксама лётчык **Віктар Хаткоўскі**.

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

# Колькі недадаюць пенсіі працуючаму пенсіянеру?

***На адным з сайтаў вычытаў, што беларуская дзяржава вылічвае ў працуючых пенсіянераў 30 працэнтаў пенсіённай сумы. Наколькі гэта адпавядае сапраўднасці? І як з гэтым у іншых дзяржавах — у краінах Еўрасаюза ці ў тых жа Расіі ды Украіне?***

***Фёдар Канатоп, Брэст.***

Тое, што з кожнага працуючага пенсіянера наша дзяржава "адшчыпвае", — вядома кожнаму. Але пытанне, колькі, у якой прапорцыі і ці з усіх пароўну...

Тэлефаную ва Упраўленне сацыяльнай абароны адміністрацыі Маскоўскага райвыканкама сталіцы. Інспектар **Дар'я Аляксандраўна Рыпіцкая** тлумачыць: "Так, вылічэнні сапраўды маюць месца, але не 30 працэнтаў..."

Паводле слоў спадарыні Рыпіцкай, у кожнага працуючага пенсіянера індывідуальная сума адлічэння. Механізм разліку хоць і адзін, але атрымліваецца, што сумы адлічэнняў ва ўсіх розныя. Чаму? Справа ў тым, што ў разлік бяруцца індывідуальныя каэфіцыенты пры першапачатковым налічэнні пенсій, сярэдняя заработная плата па краіне. У адных той каэфіцыент мінімальны, у другіх — сярэдні, у трэціх — максімальны... Сам жа каэфіцыент залежыць — кожны ведае — ад агульнага працоўнага стажу, сярэдняга заробку. Словам, тут ніякай ураўнілаўкі...

Прашу інспектара канкрэтызаваць механізм на жывым прыкладзе.

— Ну глядзіце, — тлумачыць Дар'я Аляксандраўна. — Напрыклад, пры першапачатковым налічэнні пенсіі ваш каэфіцыент склаў 2,2. Вам налічылі — у адпаведнасці з вашым працоўным стажам і каэфіцыентам — пэўную суму, да прыкладу, 2 мільёны 216 тысяч рублёў. І калі вы пакінулі працу, нідзе больш не працуеце, то столькі і будзеце атрымліваць.

**— А калі ўладкуюся на працу і буду атрымліваць заработную плату — што ў такім разе?**

— У такім разе ў разлік бярэцца ўжо іншы каэфіцыент, а менавіта — 1,3... І паводле разлікаў, ваша пенсія складзе 1 мільён 970 тысяч рублёў. Значыцца, вы губляеце 250 тысяч рублёў...

**— А ці ўлічваецца пры адлічэнні з пенсіі ў працуючага пенсіянера ягоны "пасляпенсіённы" заробак?**

— Не, заробак працуючага пенсіянера ніяк не ўлічваецца пры адлічэнні. Пад увагу бярэцца толькі адпаведны каэфіцыент і сярэдні заробак па краіне...

ДАРЭЧЫ

## У Расіі — і пенсія, і заробак

А ці затрымліваюць частку пенсіі ў працуючых пенсіянераў Расіі, Украіны, Польшчы? Калі грамадзянін, які дасягнуў пенсіённага ўзросту, працягвае працаваць, то выплата працоўнай пенсіі па старасці яму ажыццяўляецца без якіх-небудзь абмежаванняў (арт.18 Федэральнага закона "Аб працоўных пенсіях у РФ".

У другой нашай суседкі — ва Украіне — паводле законапраекта, які быў унесены на разгляд Вярхоўнай Рады, прадугледжваецца ўнесці змены ў артыкул 42 Закона "Аб агульнаабавязковым дзяржаўным пенсіённым страхаванні", у прыватнасці, у частцы ўдасканалення пенсій, якія прызначаны дзяржслужачым. Прапаноўваецца памер пенсій працуючых пенсіянераў-дзяржслужачых і 10 катэгорый грамадзян, прыраўнаваных да іх, паменшыць прыкладна ў два разы (цяпер ён складае 80—90% ад заробку, тады як сярэдні памер пенсіі ва Украіне ў адносінах да зарплаты — 48%). Што тычыцца ўсіх астатніх працуючых пенсіянераў, то яны будуць атрымліваць поўную пенсію і заробак.

У Польшчы пенсіённая сістэма — накапляльная. Памер будучых пенсіённых выплат залежыць ад памеру ўзносаў, якія працуючы паляк уносіў на працягу ўсёй працоўнай дзейнасці. Пераход на такі від пенсіённай сістэмы пачаўся ў Польшчы ў 1999 годзе. Але і сёння ў краіне на роўных функцыянуе і размеркавальная пенсіённая сістэма. Яна распаўсюджваецца на палякаў, якія нарадзіліся да 1 студзеня 1949 года і працавалі ў сацыялістычнай Польшчы. Ім пенсіі выплачваюцца за кошт працуючых палякаў, якія ўносяць частку заробленых грошай у агульную касу. Працуючыя пенсіянеры могуць атрымліваць і заработную плату, і пенсію.

Яшчэ ў адной краіне Еўрасаюза — Швецыі — налічэнне пенсій адбываецца наступным чынам. Тым грамадзянам (маецца на ўвазе бюджэтная гарантаваная пенсія), якія атрымліваюць вельмі маленькую ўмоўна-накапляльную і накапляльную пенсіі ці зусім іх не атрымліваюць, з дзяржаўнага бюджэту выплачваецца так званая "гарантаваная пенсія". Яна прызначаецца толькі па дасягненні 65 гадоў і толькі калі чалавек пражывае ў Швецыі не менш як тры гады, а ў поўным памеры выплачваецца толькі тым, хто пражыў у краіне поўныя 40 гадоў. За кожны недастаючы год памер такой пенсіі памяншаецца на 1/40 частку. Памер поўнай гарантаванай пенсіі складае для адзінокага чалавека 2,13 пражытачнага мінімуму — 91 164 кроны ў год (998 долараў ЗША у месяц). Гэта па даных за 2009 год...

**Георгій ПЛАТОНАЎ.**

ЛЮДЗІ І ДРЭВЫ

## Дуб

Дуб — сімвал сілы. У Лельчыцкім раёне непадалёку ад вёскі Данілягі расце дуб-волат. Ён знаходзіцца пад аховай дзяржавы. Цяжка сказаць, колькі гэтаму старажылу гадоў. У літаратуры ён вядомы як Цар-дуб. Некалі правадніком да яго ў нас быў 80-гадовы дзед. Ён казаў: калі быў сямігадовым хлопчыкам, дык памятае — прыязджалі паны з Кіева і Мінска, каб падзівіцца на гэты цуд прыроды. Значыць, і тады дрэва было Цар-дубам...

Некалі беларускі класік пісаў: "Сілачом стаіць дуб развесісты, і здалёк відаць пышны верх яго..." Якія б буры-віхуры ні пралятал над магутным шатром-верхавінай дрэва, ён стаіць нязломна насуперак лёсу, моцна трымаецца ўчэпістымі каранямі за зямельку-маці. Можа, таму людзей, моцных характарам і духам, атаясамліваюць з гэтым дрэвам, у якога жалуды, як сказаў адзін рускі паэт, падобныя на "патрон у абойме"...

...Зрэшты, тупых у народзе атаясамліваюць з "дубаломамі" і "дубовымі лбамі". Што таксама правільна.

## Бяроза

"Ой, бярозы ды сосны..." — спяваецца ў вядомай песні Уладзіміра Алоўнікава пра беларускіх партызан. Калі мы кажам "бяроза", дык уяўляем Радзіму, Беларусь з яе разлівамі азёр, ціхаплыннымі рэкамі і ціхмяным (цьфу-цьфу, — хай бы не спраўдзілася) народам.

Вясною бярозы частуюць чалавека жыватворным бярозавікам. Некалі з бяросты гналі дзёгаць, які, дарэчы, таксама ўжываўся ў шматлікіх леках. У народзе кажуць: бяроза аберагае чалавека ў навальніцу ад перуноў. Маланка хутчэй жыгане ў асіну ці яліну, а бярозу абміне. Людзі заўсёды пра гэтае дрэва гаварылі з замілаваннем "бярозка, бярозачка". (А ў нас, у Беларусі, знік дзіцячы часопіс "Бярозка", пра які некалі Анатоль Вялюгін напісаў: "Расце бярозка пад акном, з якога мне адкрыўся свет..." Не ўкладваецца ў маёй галаве...)

...Усё ж, пакуль на свеце шумяць пад ветрам бярозавыя гаі, пакуль вясной з-пад бяросты сцякаюць празрыстыя, як бурштын, кроплі салодкага соку, будзе вечнай зямля. І народ, які на ёй жыве.

## Рабіна

Бадай няма на свеце якога іншага дрэва, пра якое б людзі не склалі столькі песень, як пра рабіну. Часам міжволі задумваешся: можа, у рабіны ёсць душа? Можа, яна — жывая істота, толькі не ўмее сваёй лістотай сказаць на сваёй лясной мове? Каб адзначыць якую важную падзею (скажам, нараджэнне чарговага дзіцяці, чаго ў нас, на вялікі жаль, у апошнія гады здараецца ўсё менш і менш), чалавек высаджваў пад акном рабіну. Яна расла, набіралася сіл. І вось прыходзіла чарговая восень, калі на яе галінках з'яўляліся важкія чырвоныя гронкі. Прыкладна такі ж і кругазварот жыцця. Вясна, лета, восень, зіма... Нараджэнне, дзяцінства, сталенне чалавека. Кожную восень рабіна пладаносіць. І яе ягадамі ласуюцца драздьі-рабіннікі. І быццам нагадвае нам, людзям: а што ты зрабіў, чалавек, за сваё кароткае жыццё? Якія плады вырасціў? Якіх дзяцей выхаваў? Што пакідаеш на гэтым заблытаным свеце?

...Дарэчы, у нас, у Беларусі, пакуль не дасягнута даваенная колькасць насельніцтва.

**Міхась ДАНІЛЕНКА.**



КОЛОНКА ЮРИСТА

# Если вы потерпели от милиции

*"Народная Воля" не раз писала о том, как отдельные сотрудники милиции подвергают граждан избиениям и даже пыткам. Жертвами становятся не только активисты оппозиции, но и обычные граждане. К сожалению, таких дел становится все больше.*

*В "Колонку юриста" поступают письма с просьбой разъяснить, как защититься от таких представителей правоохранительных органов. Я, к слову, и сам не раз подвергался избиению сотрудниками милиции. Поэтому понимаю, как важно знать, что и как делать, когда люди в погонах превышают свои полномочия.*

## *Не оказывайте сопротивления*

Одним из важных прав гражданина Республики Беларусь является неприкосновенность личности и ее свобод. Однако **не оказывайте** сопротивления, когда милиция применяет к вам незаконно физическую силу.

Сотрудники милиции в соответствии с законом "Об органах внутренних дел" могут задержать любого гражданина, если он совершает административное правонарушение или уголовное преступление. Однако у милиции нет права задержать гражданина лишь потому, что он идет со дня рождения или какого-либо торжества слегка выпивший. Если по какой-то причине у вас произошел конфликт с сотрудниками милиции, прежде всего нужно соблюдать спокойствие. Если в отношении вас применяют незаконную физическую силу, избивают, ни в коем случае нельзя в ответ на эти действия вступать в драку. Да, вам придется терпеть эти унижения. Но закон не позволяет гражданину оказывать сопротивление сотрудникам милиции. Потом при разбирательстве вы не сможете доказать, что они первыми начали применять физическую силу. А в случае, если гражданин не сможет доказать, что сотрудники первыми применили к нему насилие, он может быть привлечен к уголовной ответственности за сопротивление представителю власти.

## *Жалуйтесь в Следственный комитет*

Что же делать, если вы оказались в такой ситуации? Необходимо сразу же обратиться с заявлением в Следственный комитет района о возбуждении уголовного дела за превышение власти сотрудниками милиции. Также советую обратиться к прокурору района, поскольку на него возложена обязанность контроля за деятельностью органов внутренних дел.

## *Телесные повреждения устанавливает судебный эксперт*

Следователь выносит постановление о назначении судебно-медицинской экспертизы по полученным телесным повреждениям. Если конфликт случился в выходные дни, следователь имеет право направить потерпевшего гражданина к дежурному судмедэксперту. До осмотра судебным экспертом **нельзя** умываться, залечивать раны, поскольку потом будет сложно установить их давность и степень тяжести.

В случае, если у гражданина ввиду каких-либо обстоятельств не получается обратиться к следователю, советую немедленно обратиться в поликлинику по месту жительства или больницу для оказания первой медицинской помощи. В медучреждении обязательно зафиксируйте все телесные повреждения. Эти данные будут потом положены в основу судмедэкспертизы. Кроме того, медицинское учреждение немедленно уведомляет дежурного по РУВД, что к ним обратился человек с травмами. В кратчайшее время в медучреждение прибудет дознаватель, который возьмет у вас объяснение по поводу полученных травм.

## *Сохраняйте личные вещи*

Обязательно добейтесь осмотра места происшествия, где вы были подвергнуты избиению, поскольку там могут остаться следы преступления (кровь, отпечатки обуви, порванные вещи и другие предметы преступления). Если на одежде остались следы крови, слюны, грязи и частицы каких-либо инородных объектов, то такие вещи в последующем будут являться доказательствами противоправных действий сотрудников милиции.

Эти вещи необходимо упаковать. Сделать это должен следователь. Потому что это уже следственное действие, которое называется изъятием вещественных доказательств. Перед тем как изъять данные вещи, следователь в присутствии понятых обязан сделать осмотр и описать подробно в протоколе индивидуальные признаки предмета. Также надо принять меры, чтобы была назначена судмедэкспертиза и в отношении милиционера, который подвергал гражданина избиению. Все ходатайства пострадавшего должны быть оформлены в письменной форме. Ходатайство подлежит немедленному исполнению.

## *Полиграф как средство установления истины*

Одним из способов фиксации злоупотреблений сотрудниками милиции своими полномочиями является проведение опроса подозреваемого с применением полиграфа.

Такой опрос способствует получению от опрашиваемого фактических данных, имеющих значение для своевременного проведения оперативно-розыскных мероприятий и следственных действий, а также для выявления, предупреждения, пресечения и раскрытия преступлений, проверки опрашиваемого на причастность к подготавливаемым или совершенным противоправным деяниям. Все эти данные позволят подтвердить показания потерпевшего.

## *Уголовное дело в трехдневный срок*

В течение трех дней сотрудник Следственного комитета должен возбудить уголовное дело или отказать в возбуждении уголовного дела за отсутствием состава преступления в действиях сотрудников милиции. Если по вашему заявлению был получен отказ, вы имеете право обжаловать данное решение прокурору района или обратиться в суд.

Если Следственный комитет направил ваше заявление для расследования в органы милиции, вы должны немедленно написать жалобу прокурору, поскольку такие дела подведомственны только Следственному комитету.

## *Права потерпевшего*

Сразу же после возбуждения уголовного дела следователь должен уведомить об этом заявителя, признать его потерпевшим по делу и разъяснить его права.

Пострадавший может подавать ходатайства, жалобы, дополнительные доказательства, обжаловать действия ведущего процесс. Кроме того, потерпевший гражданин может подать во время судебного процесса гражданский иск, в который будут включены все денежные суммы, затраченные им во время данного разбирательства. Также гражданин может требовать от виновного лица возместить ему и моральный вред, причиненный данным преступлением.

Следует помнить, что все отказные материалы через пять лет уничтожаются, поэтому необходимо сделать все копии материалов проверки.

## *Помогут СМИ и правозащитные организации*

Уголовные дела в отношении сотрудников милиции, подвергших избиению граждан, из числа сложных. Как правило, до суда доходят единичные дела. Это те, когда потерпевший с самого начала занимает наступательную позицию, правильно засвидетельствует телесные повреждения, когда в уголовном деле закреплены предметы преступления.

Мой совет: если потерпели от милиции, обращайтесь к правозащитникам. Они смогут быть помощниками на протяжении всей тяжбы с правоохранительными органами. Об этом деле можно сообщить в СМИ, чтобы дело находилось под общественным контролем. Такой опыт уже есть. Белорусскими правозащитными организациями, например, ежегодно готовится альтернативный доклад о пытках и мерах, предпринятых государством для их предотвращения, который направляется в Комитет по правам человека ООН. И Беларусь вынуждена реагировать на материал, представленный правозащитным сообществом.

## *Как наказывают милиционеров?*

За превышение сотрудниками милиции служебных полномочий установлена строгая уголовная ответственность. В зависимости от ситуации виновный милиционер может попасть в тюрьму на срок до десяти лет.

После того, как в Беларуси был сформирован Следственный комитет, дела в отношении сотрудников милиции стали рассматриваться данным органом. Но сотрудники Следственного комитета — в основном бывшие милиционеры. И, конечно, у людей возникает недоверие, что такие дела будут рассматриваться объективно.

Но в любом случае отступать нельзя. Надо помнить, что, согласно Конституции, все граждане Беларуси равны перед законом. Государство обязано защищать граждан от посягательств на их свободу и личные права. А если человек знает свои права и, главное, то, как их защищать, это и есть гарантия его безопасности от любого произвола со стороны должностных лиц.

**Олег ВОЛЧЕК,**
**юрист,**
**руководитель**
**правозащитного центра**
**"Правовая помощь**
**населению" (Украина).**

